*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля

**№ 134 (486)**
Серада, 29 ліпеня 1998 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"



**Новыя вершы**

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

## З кнігі "Сямірадкоўі"

***

*За футболам сачыў Усявышні з нябёс.*
*Потым позірк з Парыжа на Мінск перанёс*
*І сказаў: "Беларусы, у вашу карысць*
*Я назначыў пенальці — каб выйгралі вы,*
*Каб нарэшце маглі святкаваць перамогу.*
*Не заб'еце — прашу не дурыць галавы:*
*Д'яблу скаргі нясіце свае, а не Богу".*

***

*А дождж і лье, і лье, і лье бясконца —*
*І дзень, і ноч, і ўчора, і заўчора...*
*Гляджу на сумны, скрушны твар вяскоўца —*
*І на душы ад чорных думак чорна.*
*Чым угнявілі мы тварца сусвету?*
*За што наслаў на нас ён кару гэту?*
*Няўжо за наша ўмілаванне чорта?*

***

*Мардаценькі панок сказаў з экрана,*
*Што сёння ў нас на гульнішчы "Дынама"*
*Была галоўная падзея дня.*
*Панок, відаць, сляпенькі стаў зарана,*
*Інакш бы ўбачыў дзеда-інваліда,*
*Што харч шукаў у скрыні для адкідаў*
*І быў галоўнаю падзеяй дня.*

***

*Як зразу, як імгнення адвярнуліся*
*Ад роднай мовы наскія чыны!*
*Як лёгка веру продкаў у мінуласці*
*Пакінулі ў нядобры час яны,*
*Прыняўшы з ходу веру Сатаны!*
*І хто цяпер вярнуць яе паможа*
*Ім — неразумным тваім дзецям, Божа?*

***

*Свет брыдзіць сівую маю галаву*
*За тое, што ў хамскай дзяржаве жыву.*
*І страшна мне стала: надыдзе часіна —*
*І ўбачу я Янку, Якуба, Максіма,*
*Яны і спытаюць: "А што ж гэта, брат?*
*Які ж вы і як усталёўвалі лад,*
*Што ў краі арудуе хамская сіла?"*

***

*Мы, летувісы, латышы, эстонцы,*
*Вам, беларусы, дзякуем за ўрок:*
*Пабачыўшы, як есць вам душы стронцый,*
*Смялей зрабілі мы свой верны крок.*
*З удзячнасці цяпер вам кажам: едзьце*
*К нам на заробкі!.. Праўда, давядзецца*
*Хоць трохі мову нашу падвучыць...*

***

*Эфір абвясціў, як мага весялей,*
*Што ўжо запаведнік прыроды Палесся*
*Спраўляе чарнобыльскі свой юбілей.*
*Ці чуеш ты, Прыпяць? Ці чуеш ты, Бесядзь?*
*Святкуйце! Ужо запаведніку дзесяць!*
*Крычыце: "Жыві, Беларусь, і далей!*
*Жыві, Беларусь, і на Бога надзейся!.."*

***

*Таварыш! Калі ты баішся*
*Адкрыта, як воін на варце,*
*Адпор узурпатарам даць, —*
*Замкніся ў вялікай пагардзе,*
*У праведным гневе замкніся,*
*А толькі не ўкленч, не сагніся,*
*А толькі сумленню не здрадзь!*

**1998, травень — ліпень.**

## Дзярждэпартамент ЗША абвяргае заявы прэзідэнта Лукашэнкі, што датычыцца пазіцыі Злучаных Штатаў у адносінах да Беларусі

Прэс-сакратар Дзярждэпартамента ЗША Джэймс Рубін абверг заяву беларускага прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што Злучаныя Штаты пагражаюць разарваць дыпламатычныя адносіны з Беларуссю, калі беларускія ўлады не дазволяць выставіць пост марскіх пехацінцаў на тэрыторыі рэзідэнцыі пасла ЗША ў пасёлку Драздзы. Прэс-сакратар заявіў, што на самой справе Злучаныя Штаты патрабуюць вяртання тых ахоўнікаў, якія знаходзіліся ў рэзідэнцыі да 22 ліпеня, калі беларускі ўрад прымусіў пасла Дэніэла Спекхарда пакінуць яго рэзідэнцыю ў Драздах. На той час у рэзідэнцыі працавалі няўзброеныя беларускія ахоўнікі.

Акрамя таго, прэс-сакратар Дзярждэпартамента выказаў заклапочанасць у сувязі з другой заявай, якая прыпісваецца прэзідэнту А.Лукашэнку. Кіраўнік беларускай дзяржавы быццам бы заявіў, што візавыя абмежаванні, накіраваныя супраць беларускіх службовых асоб, прывядуць да таго, што беларускім дзецям будзе адмоўлена ў медыцынскай дапамозе і аздараўленні ў Злучаных Штатах і Еўропе. "Нішто не можа быць так далёка ад праўды, — заявіў Джэймс Рубін. — Мы па-ранейшаму застаёмся вернымі свайму доўгу ў справе прадастаўлення гуманітарнай дапамогі ахвярам чарнобыльскай ядзернай катастрофы. Мы будзем па-ранейшаму садзейнічаць паездкам беларускіх дзяцей у Злучаныя Штаты для аздараўлення і аказваць Беларусі медыцынскую і другую дапамогу".

Дзярждэпартамент ЗША заклікаў урад Беларусі ўстрымлівацца ад заяў, якія скажаюць пазіцыю ЗША і рэальныя факты, а таксама вырашыць канфлікт вакол Драздоў так, каб гэта адпавядала абавязацельствам рэспублікі ў галіне міжнароднага права.

**Іван МІХАЙЛАЎ, БелаПАН.**

## Судья Жанна Левицкая не признает постановления Верховного Совета

27 июля суд Московского района столицы наложил штраф на депутатов белорусского парламента Станислава Богданкевича и Александра Добровольского в сумме 12,5 миллиона рублей каждому. Милиция обвинила депутатов в проведении несанкционированного шествия в защиту прав человека.

Парламентарии действительно участвовали в шествии и пикетировании с плакатами "Свободу депутатам Андрею Климову, Владимиру Кудинову, Валерию Щукину". Проводились акции по постановлению признанного всем цивилизованным миром Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, которое, если исходить из этого, является обязательным для всех органов власти, включая и главу государства. Однако судья Жанна Левицкая вершила правосудие не по законам, принятым Верховным Советом, а по декретам главы государства.

Такова белорусская действительность...

**Никита ПИГУЛЬ.**

**Стоп-кадр**

Более 1200 тонн сенажа заготовлено уже в колхозе имени Дзержинского Мозырского района. Тем самым обеспечена сытая зимовка скота. Весь сенаж заготовлен звеном, в составе которого работал и механизатор с многолетним стажем Владимир Алексеевич Попович.

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

## Акцыю, прымеркаваную да Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, правялі 26 ліпеня актывісты Хартыі-97 на рэчавым рынку "Дынама"

Напярэдадні Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, які, згодна з Канстытуцыяй 1994 года, адзначаецца 27 ліпеня, група актывістаў "Хартыі-97" правяла акцыю на мінскім рэчавым рынку "Дынама".

26 ліпеня прадпрымальнікам, якія гандлююць на гэтым найбуйнейшым рынку краіны, удзельнікі акцыі раздавалі апельсіны, на якіх былі наклеены бел-чырвона-белыя сцяжкі. Пры гэтым прадстаўнікі "Хартыі" тлумачылі: мы ўсе любім сонечныя фрукты, але не хочам жыць у бананавай рэспубліцы з дыктатарскім рэжымам, у якую спрабуюць ператварыць Беларусь. Было таксама раздадзена некалькі тысяч лістовак з запрашэннем прыйсці на мітынг у гонар Дня Незалежнасці, які адбудзецца 27 ліпеня; раздаваліся таксама бюлетэні "Хартыі-97". Прадпрымальнікі цёпла віталі ўдзельнікаў акцыі, многія ставілі свае подпісы пад тэкстам "Хартыі".

Паводле звестак БелаПАН, бліжэйшым часам падобныя акцыі плануецца правесці і на іншых рынках горада.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

**Незалежная экспертыза**

*Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар*

## Чаму не ідзе чэкавая прыватызацыя?

За час запаволенай чэкавай прыватызацыі (прайшло ўжо 4 гады) насельніцтва Беларусі атрымала 425 мільёнаў чэкаў-ваўчэраў. Але ні летась, ні сёлета, ні раней не назіралася актыўнага абмену іх на акцыі прыватызуемых прадпрыемстваў. 4 мільёны 872 тысячы грамадзян маюць чэкі. Але атрымала акцыі толькі 262 тысячы грамадзян (5,4 працэнта чэкатрымальнікаў), 10 працэнтаў грамадзян прадалі свае каштоўныя паперы за бясцэнак на "чорным" рынку. Каля 200 тысяч трымальнікаў ваўчэраў даручылі распараджацца сваімі чэкамі спецыяльным інвестыцыйным фондам. Астатнія чэкі — 65 працэнтаў іх колькасці — знаходзяцца без усякага руху і выкарыстання. Чым гэта тлумачыцца, і якая перспектыва чэкавай прыватызацыі на бліжэйшы час?

Найперш зазначым, што пасіўнасць чэкавай прыватызацыі тлумачыцца многімі прычынамі. Але асноўнай з'яўляюцца адносіны дзяржавы, прэзідэнта краіны да прыватызацыі. Хто будзе выменьваць чэкі на акцыі, калі невядомы далейшы лёс ужо прыватызаваных прадпрыемстваў? А раптам іх зноў нацыяналізуюць. Гэта як бы адзін бок справы. А другі — у тым, што дывідэнды на тыя акцыі, што набылі грамадзяне, альбо нулявыя, альбо мізэрныя. Як кажуць у народзе, на пляшку піва ці марожанае. Дык які сэнс адну пустую паперу выменьваць на такую ж другую? І гэта невыпадкова, бо раней, ды і зараз, да прыватызацыі выдзяляліся самыя слабыя, стратныя прадпрыемствы. Разлічвалі, што змена форм уласнасці зробіць цуд. Але цудаў у эканоміцы не бывае. Патрэбны інвестыцыі ды інавацыі. А хто пра гэта дбае?

Падыходы да чэкавай палітыкі не змяніліся і сёлета пасля дэкрэта прэзідэнта аб прыватызацыі. Робіцца выгляд, што прыватызацыя паскараецца, відаць, дзеля таго, каб на Захадзе Міжнародны валютны фонд ды іншыя магчымыя інвестары зафіксавалі гэта, а на справе ўсё рухаецца, як па смале. Так, у даны момант у аддзяленнях Ашчаднага банка "Беларусбанк" знаходзяцца пакеты акцый для абмену 116 адкрытых акцыянерных таварыстваў. Прычым у кожным раённым філіяле банка ёсць абменныя акцыі не меней як 30 акцыянерных таварыстваў. Паказушны выбар у наяўнасці. А з чаго выбіраць? Вось зараз па спісе №9, распрацаваным Міністэрствам дзяржаўнай маёмасці, плануюцца дзеля прыватызацыі дзесяткі прадпрыемстваў ва ўсіх абласцях краіны. Але што гэта за прадпрыемствы? Яны альбо глыбока стратныя, альбо дробныя і бесперспектыўныя. Напрыклад, у Віцебскай вобласці падлягае прыватызацыі стратны завод "Даламіт", што ў Рубе, Каханоўскі экскаватарны завод, пра які ніхто нічога не ведае, бо гэта, так бы мовіць, местачковае прадпрыемства. У Магілёўскай вобласці — "Крычаўгрузаўта", Бабруйскі завод вагавымяральных прыбораў. У Мінскай вобласці — Пухавіцкі камбінат хлебапрадуктаў, аўтабаза ў г.Заслаўе, Клецкі камбікормавы завод. У горадзе Мінску — завод па вырабу шчотак і г.д. Наіўна разлічваць, што людзі захочуць стаць саўладальнікамі гэтых, мякка кажучы, бесперспектыўных прадпрыемстваў, дзе нельга чакаць не тое што высокіх, але наогул якіх-небудзь дывідэндаў. Менавіта па гэтай прычыне па папярэднім спісе прыватызацыі №8, дзе былі выстаўлены акцыі 65 прадпрыемстваў, нерэалізаванымі засталіся 85 працэнтаў. Тое ж назіраецца і па прыватызацыйным спісе №9, які прапаноўваецца зараз.

Каб прыспешыць чэкавую прыватызацыю, улады папярэдзілі, што абарачэнне (абмен на акцыі) ваўчэраў будзе працягнута толькі да 1 ліпеня 1999 года, гэта значыць, яшчэ год. Але і гэта не спараджае актывізацыю ваўчэрнай прыватызацыі. Тым больш, што ўлады адзначылі, што абмен ваўчэраў можа быць прадоўжаны яшчэ на 2 гады, да 2001 года.

Чаму зроблена такая перасцярога? Проста таму, што заканадаўствам прадугледжана, што з 1999 года дзяржава пачне выкуп у насельніцтва нерэалізаваных ваўчэраў. Канешне, людзі чакаюць гэтага моманту. Але як можна пачаць гэты выкуп, калі невядома, адкуль дзеля гэтага ўзяць мільярды рублёў грошай? Чаканне людзей проста дарэмнае. Таму няцяжка ўбачыць, што абарачэнне ваўчэраў будзе цягнуцца яшчэ не год, а цэлых тры гады.

Каб паскорыць чэкавую прыватызацыю, урад вырашыў зняць некаторыя колькасныя абмежаванні пры абмене чэкаў на акцыі. Зараз можна абменьваць чэкі не толькі свае, але і членаў сям'і ў аб'ёме да 250 чэкаў разам. Але і гэтая мера наўрад ці актывізуе працэс прыватызацыі, бо ў краіне, па вядомых прычынах, няма месца для прадпрымальніцкай ініцыятывы. А без гэтага паскарэнне прыватызацыі немагчыма.

**Чулі?**

## Афіцыйныя ўлады рэспублікі байкатавалі канферэнцыю беларусаў свету. А Зянон Пазьняк прыехаў на сустрэчу з беларускай дыяспарай

Нядаўна ў Беласток на трэцюю міжнародную навуковую канферэнцыю "Культура і адукацыя беларускага замежжа" з'ехаліся прадстаўнікі беларускай дыяспары з розных краін свету.

Сустрэча адбылася ў Польшчы невыпадкова. Яшчэ два гады таму на папярэднім сходзе ў Мінску было вырашана, што менавіта Беласток стане месцам правядзення канферэнцыі 1998 года.

Для правядзення навуковага форуму польскія ўлады прадставілі беларусам памяшканне Беластоцкага універсітэта. Арганізатарамі канферэнцыі з беларускага боку сталі згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны. З польскага — Беларускі саюз у Польшчы, Беларускае гістарычнае таварыства і літаратурнае аб'яднанне "Белавежа".

Удзельнікі канферэнцыі абмеркавалі пытанні развіцця нацыянальнай культуры і адукацыі ва ўмовах, калі змагацца за беларускасць даводзіцца перш за ўсё на самой радзіме. А таксама ўзнялі важнае для беларускай дыяспары пытанне аб адкрыцці ў Беластоку Беларускага культурнага цэнтра. Удзел у канферэнцыі прыняў і лідэр БНФ Зянон Пазьняк.

Перад беларускімі дэлегатамі выступілі міністр культуры Польшчы Іаана Внук-Назарава, віцэ-ваявода Беластоцкага краю Ёзэф Пётр Клім, былы пасол Польшчы ў Беларусі Эльжбета Смулэк. А вось афіцыйныя ўлады Беларусі не прынялі запрашэнне арганізатараў канферэнцыі і не ўдастоілі сваіх землякоў нават прывітальным лістом. Таямніча паводзілі сябе і пасланцы беларускай дыпламатыі ў Польшчы. Яны з'явіліся на канферэнцыю, але незразумела, у якой якасці: нават не павіталі ўдзельнікаў навуковага форуму. Мэта іх прысутнасці так і засталася для дэлегатаў загадкай.

Вольнага паветра ўдзельнікі канферэнцыі ўдыхнулі падчас вандроўкі па беларускіх мясцінах Беласточчыны. Яны наведалі месцы паломніцтва беларусаў — святую гару Грабарку з нядаўна адноўленай пасля пажару царквой, Беларускі музей у Гайнаўцы, а таксама фестываль беларускай песні "Басовішча".

**Наталля ВАЛАКІДА.**

**Факт**

## Иметь две коммунистические партии вредно

Печатные органы Администрации президента "Советская Белоруссия" и Совета министров "Белорусская нива" приступили (вероятно, по заданию свыше) к укреплению рядов Коммунистической партии Беларуси (чикинской). 23 июля "СБ" напечатала заметку "Совет КПБ выступил с политическим обращением", 25 июля дело продолжила "БН" в публикации "Призыв к консолидации". Государственные газеты поддержали объединение комдвижения в лице инициаторов, возраст которых колеблется от 65 до 85 лет.

Обращение к приверженцам социалистической идеи подписали 16 персон: бывший первый секретарь ЦК КПБ Е.Соколов, бывший секретарь Брестского и Минского обкомов ЦК КПБ В.Микулич, бывший секретарь ЦК КПБ по идеологии А.Кузьмин, бывший лидер прокоммунистической фракции Верховного Совета 12-го созыва М.Качан, бывшая заместитель председателя Совета министров БССР Н.Снежкова и так далее.

Сегодня они выступают за всенародную поддержку внутренней и внешней политики президента А.Лукашенко; противостояние империалистической реакции во главе с США; пополнение первичек за счет переманивания в придворную партию КПБ—КПСС организаций калякинско-новиковской ПКБ. "Иметь две коммунистические партии вредно..." — констатирует измысленный ими документ. "Бывшие" остаются верны худшим традициям минувшего и неуклонно проводят политику холуйства перед властью, насаждения ненависти к врагам, предательства сотоварищей.

**Комментарий**

## Съест КПБ–КПСС оппозиционную ПКБ или не съест?

**Людмила МАСЛЮКОВА, политический обозреватель "Народной воли"**

Вопрос в первую очередь следовало задать лидерам Партии коммунистов Белорусской. В дачно-отпускной период по телефону отозвался секретарь ЦК ПКБ Василий Новиков. К новости он отнесся саркастически: "На огородах из-за плохой погоды все плохо растет, на грядках сырость и застой — чем бы дитя ни тешилось..."

Всерьез В.Н.Новиков отметил, что попытки реанимации КПБ—КПСС предпринимаются ввиду предстоящих выборов в местные органы власти. Понятна задача власти оттянуть антирыночный электорат на кандидатов, которых подберет лидер КПБ, заместитель мэра города Минска Виктор Чикин. Впрочем, бабушка еще надвое сказала, будут ли претенденты от власти на красные мандаты именоваться "чикинцами"... Идея единения комдвижения Беларуси включает в себя и такую тактическую разработку: КПБ избавляется от своих вождей, ПКБ — от своих, и тогда все здоровые (хотя и очень престарелые) силы консолидируют вокруг себя "честных" сторонников Лукашенко и противников НАТО.

В.Н.Новиков воздержался от четкого прогноза о том, съест КПБ—КПСС альтернативную ПКБ или не съест. Впрочем, вряд ли этот вопрос взволнует широкую общественность, учитывая, что оппозиционную президенту компартию давно не видно и не слышно. А товарищ Соколов Е.Е. с компанией опять призваны к активным действиям через государственные СМИ во имя того, "чтобы сохранить право нашего народа жить в соответствии со своими представлениями о свободе..." Представления Ефрема Евсеевича о свободе в рекламе не нуждаются.

## Ля ласкавага мора пяецца весялей

Значна ўрэзанай аказалася конкурсная праграма міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні ў рамках чыста дзяржаўнага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". На паркет летняга амфітэатра выйшлі толькі 17 спевакоў з 14 краін свету, у той час як спачатку меркавалася, што прыедуць госці з 34 дзяржаў. Пры гэтым сярод канкурсантаў былі і дзве нашы артысткі: з Мінска — Вольга Вронская, якая працуе ў Дзяржаўным маладзёжным тэатры эстрады, а таксама лаўрэат тэлеконкурсу "Зорная ростань" Вікторыя Дзямянчук з Гродна. Да апошняга моманту заставаліся непрададзенымі білеты на шэраг канцэртаў гэтага музычнага фэсту, за прагляд якіх сям'ёю давялося выкласці па мільёну і болей рублёў. У аўральным, як заўсёды, рэжыме вёўся рамонт вуліц і гасцініц горада, а таксама неабходныя работы па давядзенні да ладу галоўнай сцэны, лавак, інжынерных камунікацый, якія перарабляюць штогод.

Найбольшае ж расчараванне арганізатараў і гледачоў напаткала тады, калі стала вядома, што некаторыя зоркі эстрады, сярод якіх Ала Пугачова, вырашылі праігнараваць віцебскі фестываль. А вось у Адэсе, дзе ўжо адбылася першая частка іншага "Славянскага базару", яе знакаміты партнёр Ф.Кіркораў быў заўважаны і выступіў з вялікім поспехам. Тое камерцыйна-музычнае шоу ўзяў пад сваю апеку ўкраінскі прэзідэнт Л.Кучма. Ды і раней нашы суседзі-ўкраінцы не вельмі шанавалі музычны баль у Віцебску, прыязджалі на адзін дзень, а, здаралася, адразу пасля выступлення вярталіся дамоў.

**Уладзімір ШЫК.**

## Хто на гэты раз паедзе ў Амерыку?

Вось ужо трэці год запар кампанія "Філіп Морыс" прапануе жыхарам Беларусі прыняць удзел у акцыі, два пераможцы якой ужо восенню гэтага года паедуць у ЗША бясплатна. Яны на працягу 15 дзён перасякуць краіну з Захаду на Усход, наведаюць Сан-Францыска, Лос-Анджэлес, Новы Арлеан, Мемфіс, Вашынгтон і Нью-Йорк. Для ўдзельнікаў акцыі будзе арганізаваны таксама розыгрыш ста гадзіннікаў, тысячы запальніц і чатырох тысяч фірменных маек.

"Акцыя не ідзе ўразрэз з барацьбой супраць курэння, і мы не ставім мэтай павялічыць колькасць курыльшчыкаў, хоць гэта легальны бізнес, — сказаў на сустрэчы з журналістамі начальнік аддзела па карпаратыўных справах прадстаўніцтва кампаніі ў нашай краіне Дзмітрый Хрол. — Але хацелася б, каб людзі карысталіся прадукцыяй добрай якасці і па даступнай цане. Дарэчы, да розыгрышу не дапускаюцца асобы маладзей за 18 гадоў".

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БелТА.**

## Базавая стаўка рэфінансавання ў Беларусі зменшана на два працэнты і складае з 1 жніўня 38 працэнтаў гадавых

З 1 жніўня базавая стаўка рэфінансавання ў Беларусі змяншаецца на два працэнтныя пункты і складзе 38 працэнтаў гадавых. Такое рашэнне прынята саветам дырэктароў Нацыянальнага банка краіны.

На думку спецыялістаў, гэта звязана з паступовай стабілізацыяй інфляцыйных працэсаў у рэспубліцы і будзе садзейнічаць стымуляванню эканамічнага росту.

Як вядома, у 1998 годзе базавая стаўка рэфінансавання змяншаецца ўжо трэці раз. З 1 красавіка яна была зніжана з 50 працэнтаў да 44, а з 7 мая — да 40 працэнтаў гадавых.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

**Спорт**

## Выканкам Беларускай федэрацыі футбола зноў не прыняў адстаўку Яўгена Шунтава

Выканкам Беларускай федэрацыі футбола (БФФ), які быў сабраны другі раз за апошні месяц, зноў не згадзіўся з заявай аб адстаўцы кіраўніка гэтай грамадскай арганізацыі Яўгена Шунтава.

24 ліпеня члены выканкама амаль тры гадзіны абмяркоўвалі сітуацыю, якая склалася ў беларускім футболе. Яны ўсё ж прыйшлі да вываду, што для нармальнага функцыянавання федэрацыі і каб пазбегнуць магчымых санкцый з боку міжнародных футбольных арганізацый дзеючаму прэзідэнту неабходна заставацца на сваёй пасадзе аж да чарговай справаздачна-выбарнай канферэнцыі БФФ.

Як паведаміў карэспандэнту БелТА віцэ-прэзідэнт федэрацыі Юрый Курбыка, у бліжэйшы аўторак у Мінск прыбудзе адзін з адказных работнікаў УЕФА Эрык Эпле, які на месцы азнаёміцца са становішчам спраў у беларускім футболе. Акрамя таго, у сярэдзіне верасня беларускую сталіцу наведае і віцэ-прэзідэнт УЕФА ПерРаўну Амдал.

**Ігар ХАДАСЕВІЧ.**

## Іван Іванкоў: "Цяпер магу крыху адпачыць"

Двухразовы абсалютны чэмпіён свету беларускі гімнаст Іван Іванкоў пераканаўча даказаў, што ён па-ранейшаму, нягледзячы на перанесеную траўму перад Алімпіядай у Атланце, з'яўляецца адным з самых рэальных прэтэндэнтаў на вышэйшыя ўзнагароды маючых адбыцца Гульняў 2000-га года ў Сіднэі.

А пацвярджэннем таго з'яўляецца яго чарговая перамога на Гульнях добрай волі ў Нью-Йорку, дзе беларускі гімнаст у асобных відах спаборніцтва быў лепшым у практыкаваннях на перакладзіне. Яшчэ адну ўзнагароду — сярэбраную — наш зямляк заваяваў за камбінацыю на брусах. Нагадаем, што да гэтага Віталю не было роўных і ў мнагаборстве. "Я задаволены сваім выступленнем на амерыканскай зямлі, — сказаў чэмпіён. — І цяпер дазволю сабе крыху адпачыць".

На п'едэстал гонару такіх прэстыжных спаборніцтваў падымалася і вядомая беларуская грацыя Яўгенія Паўліна, чыё цудоўнае выступленне ў турніры па мастацкай гімнастыцы пасля больш славутых расіянкі Аліны Кабаевай і украінкі Алены Вітрычэнка было адзначана бронзавай узнагародай.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БелТА.**

## Надвор'е

29 і 30 ліпеня на тэрыторыі рэспублікі захаваецца пераменная воблачнасць з праясненнямі, 29 уначы на большай частцы тэрыторыі, удзень на ўсходзе рэспублікі — навальнічныя дажджы, месцамі дажджы моцныя; 30 уначы па паўднёвым усходзе, удзень па паўночным захадзе — кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёвы, паўднёва-заходні, 5—10 м/с, пры навальніцах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра 29 уначы +14...+19, удзень +20...+25, 30 уначы +9...+14, удзень +22...+27.

**Адкрытым тэкстам**

## "Папа і мама, каб вы толькі ведалі, як мне не хочацца вяртацца дамоў, у ваш камуністычны адстойнік..."

*Паважаная рэдакцыя газеты "Народная воля"! Не магу не расказаць вам пра пісьмо сына з Амерыкі, куда ён паехаў на некалькі месяцаў на працу. Яно так узрушыла мяне і суседзяў, так прымусіла задумацца аб сваім жыцці і сваёй краіне, што ўжо некалькі дзён не магу супакоіцца. Ён піша:*

*Дарагія папа і мама! Цяпер я разумею, чаму людзі так ірвуцца ў Амерыку, а прыехаўшы сюды, не хочуць вяртацца дамоў. У мяне такое адчуванне, што я трапіў у казку, у нейкае другое вымярэнне, другое жыццё. Нават тое светлае заўтра і той камуністычны рай, пра які вам гадамі тлумяць галаву, не ідзе ні ў якое параўнанне з тым, як тут ужо жывуць людзі. Усе ўсміхаюцца, адгукваюцца на твае просьбы, дапамагаюць... Толькі станоўчыя эмоцыі, ніякіх праблем, адзін кайф ад жыцця.*

*У нашым маладзёжным аб'яднанні тры разы на дзень харчаванне. Шведскі стол. Можна есці што хочаш і колькі хочаш. Тут столькі страў, пра якія я раней і не чуў. На выхадныя ўсе запрашаюць дамоў у госці. Папа і мама, пабачылі б вы, якія вялізныя і прыгожыя ў іх дамы, у кожнага дарослага — шыкоўны легкавік. Адна праблема турбуе — дзе, у якім рэстаране ці дома сёння абедаем ці вячэраем. Шукаюць па рэкламе, якія карысныя новыя стравы з'явіліся.*

*Адно псуе мне настрой — што восенню трэба вяртацца ў Беларусь. Дарагія папа і мама, каб вы толькі ведалі, як мне не хочацца вяртацца ў ваш камуністычны адстойнік. Я вельмі шкадую, што вы ўсё жыццё пражылі ў гэтым сацыялістычным калгасе, нічога добрага не бачылі і працягваеце верыць балбатунам. Я, калі і вярнуся, дык ужо ніколі не змагу так жыць, як вы...*

**А.С.**

г.Мінск.

Гэтае пісьмо — вельмі важнае для разумення нашага жыцця і перспектыў Беларусі, бо ў ім — голас маладога пакалення, нашага будучага.

Ясна, што такая моладзь ніколі не прыме цяперашні рэжым. Яны проста несумяшчальныя. Такіх маладых людзей не ўдасца ні падмануць, ні падкупіць. Рэжыму засталося правіць столькі, колькі ёсць часу да атрымання права голасу на выбарах падрастаючаму пакаленню.

Гэта не наш вывад. Так было заўжды. Успомнім дзекабрыстаў. Выйшлі на плошчу і запатрабавалі ад цара праводзіць рэформы тыя расійскія афіцэры, якія следам за адступаючым Напалеонам наведалі Еўропу і ўбачылі, як там заможна жывуць людзі. Сталін таксама моцна баяўся ваенных, якія, перамогшы Германію, заадно і ўбачылі сапраўдную, багатую ў параўнанні з СССР, Еўропу.

І сёння ў нас, на мінскіх вуліцах лупцуюць дубінкамі тых падлеткаў і юнакоў, якія ўжо выязджалі за мяжу і глытнулі водару свабоды, дэмакратыі і сапраўднага еўрапейскага жыцця. Гэта яны выходзяць на мітынгі пратэсту. Калі ўлічыць, што кожны год дзесяткі тысяч беларускіх дзяцей выязджаюць на аздараўленне на Захад, дык не цяжка прагназіраваць усё-такі вялікія надзеі на змены да лепшага і на Беларусі.

Праўда, ёсць апасенне, што ўлады могуць закрыць выезд нашых дзяцей на аздараўленне за мяжу. Заява Лукашэнкі аб тым, што варта пасылаць на аздараўленне дзяцей у Расію, сведчыць, што яны адчуваюць небяспеку ад "просвещенной" моладзі.

**Васіль КРАЎЦЭВІЧ.**

